*Аўтарка дзякуе Нацыянальнаму цэнтру культуры Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы за магчымасьць ажыцьцявіць гэтае выданьне ў межах стыпэндыяльнай праграмы для творцаў Gaude Polonia.*




У пятай паэтычнай кнізе Марыі Мартысевіч сабраныя вершы, якія пісаліся з 2006 па 2021 год. Аўтарка лічыць, што падводзіць рысу пад пэўным пэрыядам сваёй творчасьці. Тэксты з гэтай кнігі раней публікаваліся ў газэце «Літаратура і мастацтва», альманаху «Тэксты», часопісах «Маладосць» і «Алеся», на літаратурных парталах «ЛітРАЖ», «ПрайдзіСвет» і «Taubin», у выданьнях «Анталогія сучаснага беларускага верлібра» («Смэлток», 2019), «Кантрабанда паэзіі: беларуская і нямецкая лірыка» («Das Wunderhorn», 2022), «Анталогія паэтак: выбранае Вальжынай Морт» («Пфляўмбаўм», 2022) і інш.

ISBN 978-83-965621-0-4

*Прымаючы сябе,*
*сачы за дозай.*

***Няпрошаныя парады мадам Ком-Алягер***

## Кароткая гісторыя майго сталеньня пад юрысдыкцыяй чацьвёртага паштовага аддзяленьня

Там стаяла кацельня, закалочаная глуха,
на коміне было выведзена: «ОЛЯ ШЛЮХА».
«ОЛЯ» бачна заўжды, «ШЛЮХА» ўлетку лістота закрые.
Мне падабалася, што мяне назвалі Марыя.
І калі сьметніцу на галаву надзявалі ў школе,
мяне мацавала тое, што я ня Оля.
Толькі гэта тады была адзіная ўцеха.
Але пофіг. Кацельню зьнесьлі. Я пераехала.

* * *

У тыя часы, калі трыццаць восьмы быў лазікам,
мы давалі нырца ў Камсамольскае вадалазікам.
Трэба было пасьпець крыкнуць: «Пацаны, глыбіня!» —
і зь зялёнай вады тырчала ружовая даланя.
І ўсё самае дарагое каштавала дваццаць восем капеек…
А цяпер тут фантан і хіпстар жуе капкейк.

## Нунчакі

былі ў Данілы, які з Асмалоўкі —
мы ня ведалі, што Асмалоўка,
хоць бывалі няспынна, —
і яшчэ катана,
і ён на ёй хімічным алоўкам
нарысаваў герогліфы «тушаніна».

І ён расказваў мне, хто такі Тэрмінатар,
і чаму ня ходзіць у кінатэатар «Масква»,
і што купляў за палову капейкі сабе мэдыятар,
і далі два.
І была Асмалоўка тады такая высокая,
і бэз быў тады бэзавейшым,
і Сьвіслач бяздоннай.
І сэрца маё ў паркалёвай сукенцы *скокала*
вышэй за галаву Хон Гіль Дона.

## Мадонна

Жыцьцё адкладалася,
як цукеркі ў заварнік «Мадонна»:
трэба было зьбіраць доўга,
каб зьесьці потым,
як рубель на сьмятану, забыты на дне бідона,
як рубель за малочную тару, здабыты потам.
А потым ужо
жыцьцё мантачылася шалёна.
У Сьветкі была шклянка з паўголай Мадоннай,
і калі залівалі шклянку, напрыклад, колай,
то Мадонна ненадоўга рабілася голай.
Нам са Сьветкай абедзьвюм падабаўся, напрыклад,
Коласаў,
але шклянка з Мадоннай заўсёды была поўнай.

## Бармалей

— так я звала прадзеда Яна.
Помню, поўзала пад ягонай труной.
У ёй
я толькі й бачыла шляхецкі гонар.
Бармалей жыў на цёмнай кухні за хліпкай сьцяной,
паміж белым буфэтам і ржавым на газ балёнам.
Адэкалёну трайным смуродам
тхнула ягоная койка.

Такім быў мой продак,
якога судзіла тройка.

## Сустрэча на Камароўцы

Жыцьцё заганяла ў жывы куток і ставіла да румынскай
сьценкі.
«Дубравушка» — Парк Чалюскінцаў — чортава кола.
Вуліца вострай нянавісьцю да Лукашэнкі
прыпраўляла ўсё, чым кармілі сям’я ды школа.
Ад камсамола літаваў... Назавём яго Бог.
Але ў піянэрах была, толькі гальштук быў бела-чырвоны,
фіялетавыя ласіны і грыўка набок —
мама чамусьці дражніла «піянэркай Зянона».

Сябар, зь якім нас тады прымалі, зьнік — у сэнсе,
ня гугліцца.
Прыдумваеш яму цяжкі лёс,
Навінкі, калёнію, неапэрабэльную пухліну.
А можа, узяў ды паехаў ваяваць на Данбас
і загінуў, і ёсьць надзея, што за Ўкраіну.

І раптам — вось ён, жывы, жыве на суседняй вуліцы.
Нават ня сьпіўся — ёсьць жонка, сын, праца і мора
ўлетку.
І ён вельмі нават гугліцца, проста ты ня так гугліла,
але ў прынцыпе, ён ня любіць сацыяльныя сеткі.

Зусім не зьмяніўся — адно хуткаплынны час.
А ўвогуле, ўсё зьмянілася, апроч Лукашэнкі.
Нашыя дзеці будуць шчасьлівейшыя за нас:
мы будзем іх ставіць выключна да швэдзкай сьценкі.

## Прыўкрасныя шасьцідзесяцігадовыя

*їхні гарячі голови*
*їхні розбиті, як весняні асфальти, серця*
*їхні застуджені нирки в оголених попереках*
**Галина Крук, Прекрасні п’ятнадцятилітні**

пытаюцца ў гугла
як выставіць час на айфоне
атрымліваюць адказ
купіце нокію
ня ведаюць якая гадзіна
дзеляць час
на да і пасьля
алімпіяды-80

нарадзілі нас
глыбока за трыццаць
гэта адбылося яшчэ
ў савецкім саюзе

былі на паміры
і ў самаркандзе
і толькі пасьля ў парыжы
і заходнім бэрліне

запісвалі высоцкага
на бабінныя магнітафоны
былі на пахаваньні стральцова
бачылі як ня трэба

камусьці зь іх месяц таму
выразалі нырку
няясна каму
усе п’юць чырвонае

паляць на кухні ў выцяжку
прыўкрасныя шасьцідзесяцігадовыя
незалежныя ад часу
на сваіх айфонах

*Ўсё ў жыцьці, што афігенна,*
*Мае шмат канцэрагенаў.*

***Жамчужыны мысьлі мадам Ком-Алягер***

* * *

Восеньскі ранак
Прыпынак. На дрот
крумкач прысеў адзінока,
бы дзяўчынка, якой абвясьцілі байкот,
едзе ў школу да трэцяга ўрока.

А ўночы — й няма ўратавацца як —
на сьвет нападае зіма,
нечаканая, нібы з-за рогу маньяк,
і дзяўчынка ўжо не сама.

*2005*

* * *

Для таго цераз Буг і Віслу
цераз Эльбу
брысьці па сьвеце,
каб уночы аднойчы завіснуць
недзе ў Кройцбэргу,
ў cheap-internet’це,
дзе хваробе табе слаць лісты
йдзе насустрач паўсонны турак.
Маё сэрца —
Эўропа,
і ты
яе апошняя дыктатура.

*2006*

* * *

Friends only — ня захад супроць ананімаў, а стан душы.
Вершы — ваніты: ня можаш іх не пісаць — пішы.
Вось жа, на лецішчы зімна, і палец мой ные.
Госьці дзяжурна на зоркі глядзяць, дэманструюць душу
рамантычную, і неадрыўна гучыць увушшу
слова з напаўзацёртай касэты — ангеданія.
Але Енісею ня будзе, а будзе Дунай,
у верхняй ягонай плыні, і ўсё будзе най-
ажурнейшым і неабсяжным, od morza do morza.
Ды рука ўсё адно сягае па рэвальвэр, але
ўзьнімае келіх за тых, хто танчыць на гэтым стале,
хто ляжыць на гэтым стале і яшчэ за кагосьці, можа.

*2006*

* * *

Ён быў пунктуальным, але на яе губах
касмэтычнае малачко яшчэ не абсохла,
таму ён разьвярнуўся й двума рухамі — бах і бах —
уключыў спачатку правае, потым левае *сопла*.
Зрабіў на ўсю моц магнітолу (сьпяваў Боб Дылян),
заехаў колам на траўнік, зламаў куст шыпшыны...
Яе разьвітаньне было ангельскім: яна засадзіла
кветкамі сьлед ад шыны.

*2007*

* * *

*УК*

Колькі кропельніцы ні віцца,
неба рэзка пераходзіць на Вы
з усімі, каму бліскавіцы
нібы апэрацыйныя швы.

А сямёра п’яных на Сёмуху — гэта нямнога.
Мэдсёстры іх мыюць у месцах, дзе працаваць нажу.
Бог ненавідзіць Тройцу, ён забірае другога,
даючы глынуць трэцяму першых кропель дажджу.

*Бараўляны, 25 траўня 2007*

* * *

Калі хворыя на рак лёгкіх
тройчы на суткі
цягнуць косьці ў сталоўку
таракальнага аддзяленьня
анкалёгіі ў Бараўлянах,
паабапал дзьвярэй іх вітаюць фрэскі
з выбітнымі людзьмі Беларусі,
памерлымі ад сухотаў:

справа — Максім Багдановіч,
зьлева — Алаіза Пашкевіч-Цётка.
Маўляў, смачна есьці, панове,
Дыхайце чотка.

*2009*

*У суладзьдзі з космасам жыву:*
*п’ю са студні, сікаю ў траву.*

***Як мадам Ком-Алягер прабавіла лета***

## Подых навальніцы

І была ў іх адна на зямлі —
зь мясцовым сельпо — бяда:
не завезьлі марозіва.
Затое былі агонь, паветра (ў чаплях), вада
памежнага возера.
І было права плыць ува ўсе бакі
і застыць на вякі
у чаканьні зьлівы.
А па Свольне павольна
сплывалі купальскія іх вянкі,
як прэзэрватывы.

*Лісна, 9 ліпеня 2006*

## Мінус на плюс

*Сяргею Пуксту*

Мінус: я патрэбная гэтаму сьвету
як пятая пара кол дальнабойнай фуры.
Плюс: пятыя колы ніколі не сягаюць зямлі,
яны слухаюць, як іншыя колы сьпяваюць фугі,
запамінаюць, а потым запісваюць партытуры.

Мінус: я пасеяла завушніцу.
Плюс: цяпер у мяне ёсьць завушніца для трэцяга вуха.
Трэцяе вуха патрэбнае для іншага слыху,
і ў параўнаньні з тым, што гэтае вуха чуе,
любы канцэрт прэсны, нібы яго прэсуха.

* * *

Людзі капаюць лёхі, мэтро, катакомбы, склепы,
бо хочуць быць птушкамі,
але больш — кратамі.
А з птушак — цецерукамі, і таму існуюць татамі.
Хочуць катамі, і адсюль так шмат фота з катамі.
А найболей — хай гэта бяздоказна — скатамі і кітамі.

* * *

— Хлопчыкам я хацеў будаваць масты.
Бэтонныя, як наш Бруклінскі, ці пантоны —
неістотна: мяне зачароўвалі гэтыя тоны
арматуры, якая злучае між пустаты.
А ты?
— Я, здаецца, заўсёды хацела рабіць, што люблю.
Прыкладна гэта я цяпер і раблю,
хай гэта й выпівае мяне дазваньня.
Ды разумею, калі размаўляю з вамі,
што хацела б дзяўчынкай хацець будаваць масты.

* * *

Місія лета —
спасьці радавога Парэчку.
Увайсьці шматкроць
у адную і тую ж рэчку.
Паспрачацца,
што ўцісьнеш пуд шашлыку на шампур.
Выйграць спрэчку.
А, і лісічкі ў грэчку.

* * *

Людзі, што падселі на дзевяностыя, як наркоты,
ці адседзелі за дзевяностыя
лукашэнкаўскі тэрмін
і прыйшлі здаць шклатару, а там вазачкі панакоты
ў чымсьці сярэднім паміж бардэлем і кафэтэрыем —

вельмі шкада вас, але не шкадзей за тых,
хто не пасьпеў у Крым раней за ветлівых чалавечкаў.
Я вось мелася ў Кактэбэль: заставалася сесьці ў цягнік.
І я ня села, авечка.

## Масавы сыход кароваў зь вёскі Пальмінка

Сэнс існаваньня каровы ў беларускай вёсцы —
паяскравей здохнуць, парадаваўшы суседа.
І таму буронкі і мілкі — гавяда боскае —
выпраўляюцца ў вырай, адна за адною сьледам.

Пакідаюць хлявоў ангары, пагойдваючыся трохі,
па дварах гаспадынь, што сьпяць і ня чуюць бяду,
паўз вокны Дразьдзіхі, Смычыхі, Юпаціхі, Собаліхі
паўз хату Ганны Галінскай яны ідуць.

Шыхтуюцца шнурам, нібы за боінгам боінг,
у буйным тэрмінале на ўзьлётную паласу
і, каб каліўца гэтага сьвету зьнесьці з сабою,
мяккімі цёплымі вуснамі зьбіраюць расу

з трыпутніку пры асфальце ў бэнзіне й пыле,
з рэдкіх травінак, што ўніклі газонакасілкі;
запамінаючы ўсё, што нядаўна любілі,
труцца аб знак «Пальмінка» буронкі й мілкі.

Му, — разьвітваюцца буронкі, — Му.
І адказвае рэха, і ўжо ніхто не адкажа яму.

* * *

Першымі ў Пальмінцы памерлі пуні
Потым
заняпалі кароўнікі,
зьвяліся дрывотні,
сьвінарнікі ператварыліся ў мульчу,

зарасьлі зямлёю ўсе пограбы й калодзежы,
у якія я магла ўваліцца дзяўчынкаю.
Куратнікі й гаражы
трымаліся да апошняга,
але час —
ён бярэ сваё,
дзірванее бульбянішчы,
выкарчоўвае палісаднікі.
Апушчаная ніва —
антонім бэстсэлера,
што ляжаў у сэрванце
за паліроўкаю.
Цяжка будзе туды вяртацца,
бо я помню,
як пуні адно нараджаліся,
як гадзюкі сьлізгалі паміж ног
у чэрвені на сенакосе.
Атава — сталіца Канады,
матэрыя жніўня.
Сусед Гудзім
ня даў тады ўваліцца ў калодзеж,
але часам здаецца, што даў,
і я ўсё падаю ў тую нару.
А-я-яй, мае вушаняты.

*12 траўня 2021, Бронная Гара*

* * *

Разьвітаньне з домам
з кожнай ягонай масьніцай,
з ранішняй мухай, якая вусны ласкоча,
з канапай, ад якой баліць паясьніца,
з тэлефонным даведнікам, заклееным скотчам,

з нумарам і кодам раёну, напамяць вядомым.
Разьвітаньне з снамі, дзе ў склепе пакой і акно там.
Разьвітаньне з цэнтральным у вёсцы і сьвеце домам,
знаёмства з пустэчай па той, што была яго кнотам.

Разьвітаньне з кілішкамі на бляшанай тацы,
з голаю лялькай, выцертымі яе вачыма,
разьвітаньне з домам, у які яшчэ будзеш вяртацца,
у які вярнуцца больш ужо немагчыма.

Разьвітаньне з Новай Гвінэяй на старой карце,
з «ушчункам», «наедкам», «афэлкам», «рібай» і «жыткай».
З эстонскім эсэс, які ў лесе знайшоў у спраце,
зь літоўцам, які ўратаваў, узяўшы найміткай.

З дрывотняй і лазьняй: гарышчам яе і драбінай.
З бэзам, абодвума імі — ружовым і белым,
язьмінам, шыпшынаю і чарнаплоднай рабінай,
штрыфлем і малінаўкаю, з чыстацелам.

Полем бліжэй ішлося да бібліятэкі,
скрозь дзіркі сандаляў масажавала пожня.
— Бабуля, можна мне не хадзіць на гэтыя дыскатэкі?
Было можна.

*2018*

* * *

Непітушчыя пацукі ўцякаюць з п’янага карабля
Рэшта ў труме, таму няма каму крыкнуць: «Зямля!»
Падвышэньне ціску на фоне падзеньня рубля —
вось і маеш мышыныя гонкі на фаэтоне.
Трыюмфуе чытач, дачакаўшыся рыфмы «б.я».
Поўны бардак, але карабель ня тоне.

Годна пераджыць дзьве тысячы пятнаццаты год,
хай без Infiniti, але ж і без інфанагод,
без гемарою, стрэмак ды стрэмных прыгод —
вось такі аднастайны ўіш-ліст ад уласнага тыла.
Дапамогуць, магчыма, настолкі, гульня ў го
і гарбата з рамонкаў. Зрэшты, яна астыла.

А пакуль над усім верхаводзіць цялесны ніз.
Картаген разбураны — хутка будзе Туніс,
Грэч з Булгарыным самі просяцца ў букініст,
тогамі і катурнамі поўняцца стокі.
То вясна дабралася да кожнага закутка,
разьлілася шырока, а якая рака —
не разьбярэш: паблыталіся вытокі.

І таму нас сілкуе даліна ракі По:
памідоры з рукалай сёньня завезьлі ў сельпо.
Пад зімовай курткай ліпкі вясновы пот,
як бярозавік, падымаецца ўверх па сьпіне.
Убіраецца ў сілу ўнутраная краса,
пад нагой Тараса ў расе лесапаласа,
Віцебская губэрня пайшла пісаць
пераважна ямбам, і гэтага ўжо ня спыніш.

*Пальмінка, 15 сакавіка 2015*

*Салату з капусты*
*робяць так:*
*шаткуюць капусту,*
*у адну руку бяруць соль,*
*у другую — цукар і —*
*жмакаюць*
*жмакаюць*
*жмакаюць,*
*покуль капуста ня пусьціць сок.*
*Жыцьцё, у прынцыпе, робіцца гэтаксама.*

***Правераныя рэцэпты мадам Ком-Алягер***

* * *

Я афармляю балькон у туніскім стылі.
Нехта слушна зазначыць,
што трупы яшчэ не астылі.
Але бачылі б вы, якія ў іх бялюткія вілы!
Нават мёртвы турыст пацьвердзіць,
што гэта міла.
Якія там бэрбэрскія вазы і рымскія тэрмы!
Тэрор забываецца.
Застаюцца патэрны.

Вось Вікторыя, скажам,
была каралевай са стажам,
але запомнілася столікамі з дэкупажам.
Дык ці варта было
столькі часу страляць па бурах?
Я набываю бутэлечку кракелюру,
каб усё ў маім доме трэскалася,
як зямля Абісыніі.
Я фарбую парэнчы балькона белым і сінім.

*2014*

* * *

Правіла: шосты кубак сэрвізу
муж мусіць зьнесьці на працу
і вушка адбіць, каб бугальтарка Ліза
ня ведала, за што брацца.

І праўда: каму гэта трэба, калі
ў сэрванце сумуюць наборы?
Поўны камплект усяго на зямлі —
boring.

І срэбная лыжачка кажа нажу:
мяне будуць красьці…
Прагалы ў сэрвізе — колькі ў іх літражу,
столькі й шчасьця.

## Дзеці ў інтэр’еры

*Багдану Задуру і ягоным «Трунам з Ikea»*

Дзіця да сямі
патрабуе столькі квадратных мэтраў,
колькі мае гадоў.
Скажам, шасьцігадоваму
дастаткова шасьці квадратаў,
але можна абысьціся пяцьцю,
калі фон будзе сьветла-шэрым.

У кут дзіця трэба ставіць побач з таршэрам.
Гэтак яно лепш пабачыць свае правіны.
Новы трэнд асьвятленьня, дарэчы, —
кнот з пупавіны.

Дзіця ў кватэры, канешне, нязручна:
там залезе, тут скруціць, абавязкова нешта паб’е.
Але ёсьць элегантнае выйсце —
ператварыць яго ў арт-аб’ект.
Яркі акцэнт, кампактны, але кідкі.
Навучыць складаць цацкі ў эстэтычныя пірамідкі.

І, само сабою, мілыя малюнкі ў рамках —
яны заўсёды бясцэнныя.
Некаторыя адмыслова заводзяць дзяцей,
каб было што павесіць на сьцены.

Так раіць вядомы дызайнэр, а я натую.
Я нешта ўвесь час рамантую.

## Пакуль сьмерць не разлучыць

Нават сьмерць такіх не разлучыць,
а кіроўцу 29-га амаль удалося.
Амаль.
«А то як так:
муж увайшоў, а я засталася», —
какетліва сказала яна,
як толькі аддыхалася.
Перад гэтым
яна кінулася на лабавуху,
каб тралейбус спыніўся.
«Пакуль сьмерць не разлучыць».
Ёй амаль удалося.

* * *

Пакаленьні ў доме мяняліся, як шклопакеты.
Спачатку гэта рабілася за кошт дзяржавы.
І прафэсары з акадэмікамі, архітэктары ды паэты
укладаліся ў роўныя промні алей славы.

Потым у жэсе сказалі, каб мы самі.
І мы самі панесьлі на сьметнік слоікі зь перасохлаю
алычою,
матрацы, набрынялыя мацаванай старэчай мачою,
альбомы з чорна-белымі слуцкімі паясамі.

Падгнілыя рамы ламаліся, як шыйкі бядра,
гасьлі, нібыта фаеркі, ўдзельнікі фронту,
ператвараліся ў хлам у куце двара,
пакідаючы нас у шэрым Зялёным Лузе.

Мы прыйшлі ў іхні сьвет, набраўшыся крэдытаў і понту,
каб уцяпліць балькон, аб'яднаць санвузел
у спадзеве дажыць да наступнага капрамонту.

## «Зеленбуд» косіць траўнікі ў Савецкім раёне

Анамальны травень. Дзіўны вясновы сьвет,
у якім трэці дзень уладараць касцы газонаў.
У шаломах і масках усьцяж па сырой траве
крочаць байцы батанічнага гарнізону.

На вайну зь дзьмухаўцамі да кінатэатра «Мір»
выпраўляюцца зьнішчальнікі «Зеленбуда»,
і ў руках у дзяўчынкі густымі, бы клей, сьлязьмі,
заліваецца горка жоўты пухнаты Буда.

Паміраюць мільёнамі. Гэта іх мёртвы сэзон.
І замест першых паўшых ужо не паўстануць другія.
Сьвежаскошана падаюць на аблыселы газон.
Яны гінуць. Я соплі глытаю. Ў мяне алергія.

У прынцыпе, ўсе мы памрэм. І горад памрэ,
патоне ў музэйнай траве, як Дэтройт ці Прыпяць,
а пакуль нешта ў ім забіваюць, а нешта жыве,
і зьбіраецца на дварэ, і шукае выпіць.

## Баромэтар

— Младзенец крычыт на пагоду, —
раптам кажа ён і паварочваецца на другі бок.
Немаўля за сьценкай заліваецца так,
што не ратуе нават дыван над ложкам.
А ў ім жа чыстая воўна —
неяк прывёз з Ташкенту,
у восемдзесят шостым.

Гэта ўжо калі перайшоў у грамадзянскую авіяцыю.
— Я і сам табе скажу: пацяплее,
але так нясільна:
скразное ў плячы ные, а каленка пакуль не.

— Сьпі ўжо, баромэтар, —
бурчыць жонка з ложка насупраць.

Ён цяжка крэхча ў адказ.
Анягож, баромэтр.
Цэлы кастрычнік казаў ёй,
калі падмарозіць:
накрывалі ружы на лецішчы.
З дакладнасьцю да гадзіны —
ён бы мог падпрацоўваць у аэрапорце.

Там за сьценкай — таксама баромэтар,
але мусіць, нейкі кітайскі:
ён бачыў вузенькія вачаняты
ў авіяліхтары вазка,
калі іх абодвух выгульвалі.

Так і ляжаць,
разьдзеленыя сьценкай:
той яшчэ ў пампэрсе,
гэты пакуль не,
аднак ужо ёсьць кіёк і ўстаўныя сківіцы.
І шклянка вады ля ложка на тумбачцы
на выпадак, калі адкажуць прыборы.

## Нялётнае надвор’е ў Пружанах

Лёнька Бяда —
з такім іменем толькі гаманцы шчыпаць на вакзале.
Але ён быў адукаваным і пазытыўным хлопцам,
паважаў бацькоў і не памяняў прозьвішча.
Пайшоў у лётчыкі,
трапіў на фронт,
дзьвесьце шаснаццаць баявых вылетаў,
двойчы далі героя.
У мірны час даслужыўся да генэрала авіяцыі.
Лічылася, што яму лёсіла насуперак імені,
пакуль у Пружанах не пачаўся буран.
Самалёт застаўся на аэрадроме,
вырашылі вяртацца машынамі.
Нялётныя ўмовы, аднак, працуюць і на зямлі.
На запраўцы ў Івацэвічах перасеў да Сурганава.
Цяпер яны перасякаюцца.

Праз сорак гадоў захавалася толькі прозьвішча
на шыльдзе з назваю вуліцы,
застаўленай шматпавярхоўкамі.
Жыхары пратэстуюць,
пішуць уладам:
мы ўсё разумеем: павага да вэтэранаў, —
але і вы зразумейце...
Улады не разумеюць, адмоўчваюцца.
Не мяняюць нічога.
Таму дзень падобны да дня:
раніцой выпаўзае на вуліцы
ў пошуках працы, ежы і сэнсу
двухмільённае войска
генэрала Бяды.

* * *

Эра хэндмэйду
ўпарта трывала знадворку.
На плошчы замест ялінкі паставілі Singer —
ажурную Трыумфальную арку,
і пад ёю на шворку
з гаспадынямі шпацыравалі дэкаратыўныя сьвінкі.

Пакуль іншыя ваявалі,
мы шылі
шлюбныя сукенкі з парашутнага шоўку.
Нізалі каралі зь гільзаў.
Прышывалі апушку з шыншылы
рукавічкам з трыма пальцамі — трымаць вінтоўку.

Надавалі другое жыцьцё вінтажным каўнерыкам,
спалучалі хакі ды макі, шаўроны й пэрліны,
дарылі шкляных анёлкаў алавяным жаўнерыкам,
што завывалі пад вокнамі пра клін жураўліны.

І толькі калі праз чыюсьці футболку з газэтным прынтом
прарасло нязжатае мінулым летам калосьсе,
мы нарэшце пачулі нейкі няўцямны стогн
і ўцямілі: пачалося.

* * *

Лета было мокрым у годзе тым
Горад запаланілі грыбы ды зьмеі.
Лісьце заўчасна рабілася залатым,
анансавала сьнежаньскія завеі.

Лісьце кружыла — і я хацела завей.
На абароце мэблевага буклета
я запісала радок пра грыбы ды зьмей,
каб толькі іх запомніць пра тое лета.

*2017*

## Бацька ды Нёман

Заўжды марыла
спыніцца на аўтамабільным мосьце
над Нёмнам —
манэўр, забаронены
ўсімі правіламі
дарожнага руху.
І вось наша машына заглухла,
пераяжджаючы гэты мост.
«Ой, Нёман, ой, бацька мой, Нёман!» —
радасна крычу я.
«Хто твой бацька?» —
незадаволена касавурыцца бацька.
І вось бацька мяняе сьвечкі,
а я перахілілася праз парэнчы,
спрабую разгледзець Нёман,
ці б’е, ці грае ён
сваёю блакітнаю хваляй —
і нічога ня бачу:
ноч, туман, траса.
І толькі польскія фуры
з зорамі замест габарытаў,
з фарамі-шукальнікамі ў форме сэрца,
і толькі высока над намі —
Вялікі Воз на аварыйцы.
І толькі Нёман ды бацька,
бацька ды Нёман.

* * *

Дачны аўтфіт — паварот галавы назад.
Кофта, ў якой апрацоўваеш свой сад,
апавядае больш пра цябе тую.
Дрэздэн, Прага і Вена фарбуюць фасад.
Першая дыскатэка падстрыгае тую.

Не зацыруе ліпеньскае цяпло
дзірак ва ўсім, што з табой аднойчы было,
так, як выходзіла замуж — ня выйсьці ў шапік.
Бары й тэатры — рызьзё, лахманы і тхло.
Той пацалунак — толькі на коўдры лапік.

## Хлеб сьвятога Антонія

Што ж ты адразу на станцыю — вось, глядзі:
коміны тут абвівае вінаград Гаўдзі,
жабка на браме, на флюгеры — тоўсты дзік
хрумкае мёрзлымі яблыкамі цыклёна.
Пальмы на кожным падворку — такое дзі-
ва: з плястыкавых бутэлек паўстае Барсэлёна.

Камусьці жыцьцё тут — спрэс агіда і страх,
хтосьці ж зьбірае ў скрыні бітую ках-
лю, і расьпіханыя па закутах
сьнежнай адрыны каўчэгі бітае кахлі.
Ліштвы верандаў — такое Тбілісі, што вах —
нібы прывет ад Гагі, Дато і Кахі.

Калі ж напаўзае цень з навакольных лясоў,
наганяючы сон галасамі балотных соў,
Падуяй падаецца (даруй, Тбілісо)
вёска — чаго не прымроіш зімой у сутоньні.
Пахі выразьней ветрыш у шэрым сьвятле:
картэзіяне зноў выпякаюць хлеб.
Дзякую вам за бохан на хісткім стале,
Госпад мой — сейбіт, і пекар — сьвяты Антоні.

## Хрызастом і што ў яго адбылося з хмызом

Хрызастом у абладзе тужлівай асеньняй імжы
вырашыў выпаліць хмыз, што нарос на мяжы:
наліў адработкі, пакрышку яшчэ палажыў —
так яго навучыў «у кантакце» хлопец, зь якім ён служыў.

Хмыз разгараўся, і ветру кожны парыў,
як нявесту, вянчаў яго рыжай павай з ільвіных грыў,
і вось, як належыць любой палымянай расьліне,
хмыз той загаварыў.

Ён, дакладней, яна (бо тое быў хмыз лазы)
гаварыла так: «Хутчэй бы прыйшлі маразы,
бо хіба што сьнег, хіба што ён, Хрызастоме,
выраўняе барозны тваёй шызы.

Зьнішчы мяне — я ўсё адно прарасту,
як належыць любому выхаванаму кусту,
і ўжо праз лета я зацьвіту, Хрызастоме,
вось паглядзіш, зацьвіту.

Бо я з гэтай глебы. Хочаш — правер, капні:
вось яна я і вось мае карані,
а тваё, Хрызастоме, жыцьцё з маёй пэрспэктывы —
голая вырубка, вываратні і пні.

Ты хадзіў за тры моры на поўдзень і поўнач ды
ведаеш больш за ўсіх у свае гады,
ды ці скажаш ты, ці скажаш ты, Хрызастоме,
дзе вёска гэтая мае свае клады?

Ты агораў усе кантынэнты за пядзю *пядзь*,
бачыў сады пад вадой і сады, што вісяць,
і таму мяркуеш: такі, як ты, не памыліцца —
але сядзь, Хрызастоме, кажу табе, проста сядзь,
я пакладу лісты табе на патыліцу...»

Дождж узмацніўся й рукамі-цуркамі Шыў
над гаваркой расьлінай агонь задушыў,
і аповед заціх, але нешта ў душы Хрызастома
ўсё-ткі разварушыў.

Хрызастом тады памяняў свой погляд на ўсё,
на кірмашы ў Бярозе купіў парасё,
вечарамі сядзіць на мяжы пад сваёю лазою,
і дарожку валосься на карку казыча лісьцё.

Едучы на Брузгі ці Варшаўскі мост,
вы пакінеце зьлева былы міліцэйскі пост,
а за ім такую сінюю драўляную *цэркву*,
там яшчэ жонка дзеда Мішы прымала хрост.

І вось там на поўдзень такое балота ідзе,
краязнаўцы кажуць, гэта водападзел

між Балтыкам і Чорным, тэўтонамі і ардой.
Туман уздымаецца белы, як сырадой.

Там і жыве Хрызастом. Размаўляе з *хмызом*.

## Мяжа па Ясельдзе

*Яны казалі яму: скажы «шыболет»,*
*а ён казаў «сыболет» і ня мог інакш вымавіць.*

**Судзьдзяў** ***12:6***

Батальён «Етвызь» кантралюе межы гаворак,
спыняе аўто і просіць сказаць «шэпка», —
і тых, хто ня змог, адводзяць за блізкі пагорак.
«Кінь», «кунь» ці «куонь» — таксама нішто дачэпка.

Хто іх узлаваў так, што іх так даканала?
Эксклюзіўна — ў этэры нашага тэлеканала:

— Беларусы — стрэмныя: езьдзяць у Вільню на танках,
рукі ж у іх — па локаць у вышыванках.
Непрыемныя асушальнікі нашых балот,
іхні ж галоўны нам безупынку ўрот.

Мы ня верым больш губэрнатарам, мэрам, босам,
мы прысягнулі служыць адным ізаглосам.

Наш адзіны пісаны закон — Нумары Стронга,
і пакуль у Ясельдзе грае хвастом стронга,
беражыцеся. Беражыцеся тыя,
хто ня ў стане правільна вымавіць ані дыфтонга.

*Пастарайся быць ветлівай,*
*калі сустрэнеш шэрую мыш:*
*кожная зь іх*
*можа выявіцца кардыналам.*

***Няпрошаныя парады мадам Ком-Алягер***

* * *

На папялішчы
Вялікага Цырка бегаюць у кіча
хрысьціяне й патрыцыі.
Хто першым кранецца пляча:
— Я Традыцыя!
— Не, я —Традыцыя!
Не замінайце ім:
тут вяршыцца расклад
на бліжэйшую тысячагодку:
хто тут будзе кічом,
хто тут зробіцца кічам,
хто тут сэнс, а хто ні а чом,
і каго па шыі мячом
або ўніз абліччам.
Хто per aspera, хто ad astra,
хто па венах і хто ad leones...

Зрэшты, ня ўсё толькі кепскае
зьвязана было ў Рыме
зь вядомым Нэронам.

## Выспа Свабоды

*(верш на свабоду-iii)*

Ібіца — выспа,
з кліматычнай танзурай манаха:
расьліннасьць пры беразе,
праплешыны пустэльні ўнутры,
і ды-джэі на пэнсіі
адпаўзаюць паміраць у тую пустэльню.

Адзін зь іх (Мігель) кажа:
«Свабода — кветка.
Лёгка выгадаваць ля вады,
але паспрабуй на скале,
сярод гэтай сушы.
Гэй, асьцярожней:
вы зноў наступілі на клюмбу».

## Старыя і мора

*(выспа свабоды-ii)*

Нейкі дзядок выгаворвае
культаваму паэту з Кубы:
«Думаеш, ты круты,
бо цыцкастыя дзеўкі
здымаюць цябе на мабілкі,
падлучаныя да ютубу?
Лепей выплывем з табой як мага далей у Карыбы.
Хто выжыве — той і глыба».

Старыя кладуцца на надзьмуваныя матрацы і
выплываюць у адкрытае мора. Абодва паміраюць.

* * *

Ці вось яшчэ прыклад
Volkswagen на вуліцы Леніна
бібікае на працэсію Corpus Christi.
А яна ніяк не канчаецца.

Вернікі пазіраюць няўхвальна,
інкрымінуюць кіроўцу зьнявагу да эўхарыстыі.

Кіроўца цадзіць скрозь зубы,
была страна как страна,
а тут, зыр, багамольнымі сталі, на...
Ня ведае нават, каго на ўсіх іх няма:
Люцыфэра ці Сталіна.

З гэтай во векавухай
вучыліся нават, здэцца, у аднэй школе,
а цяпер празь яе слухай
фінал Лігі Чэмпіёнаў па магнітоле...
Шамаціць эфэм-хвалямі, думае:
у аплаткі вам стронцый...

І над усімі імі сьвеціць
халоднае менскае сонца.

* * *

Раз ужо вы спыталіся, я толькі за,
калі парафія разумнейшая за ксяндза.
Бо тады паўстаюць правінцыйныя авіцэны,
і, нібы зь бідона смарагдавая драцэна,
пакрысе на расе вырастае супольнасьць зь вёскі,
і пры дарозе на мантыі Маткі Боскай
не паблякне вавек беззаганная біруза.

Але вусьцішней ад любых івачоў і ям,
калі ксёндз разумнейшы за ўсіх сваіх парафіян.
Тут мне фпада до гловы кейс пра казу і баян,

бо да курыі далятаюць трывожныя зьвесткі,
нібы пастыр чытае Каран і Талмуд па начах,
і раніцою на мшы ў ягоных вачах
круцяцца незразумелыя арабескі.

Патаптаўшы біскупу ягоны вялебны кілім,
ксёндз ізноў адчайна хоча ў Ерусалім,
заяжджае на пошту сплаціць касьцельны анлім,
каб сам-насам ня ўпасьці ў дэпрэсію, нібы ў ерась.
Або вось яшчэ місіі на Мансэрат і ў Мадрыд…
Але чорт. На тэрасе плябані адкрываецца краявід
і нацягвае сонца густы залацісты херас.

* * *

Уцаркаўленьне младзенца адбываецца пакрысе.
Напачатку ў вушы ялей ліюць немаўлятку,
потым добрая хросная мама ў царкву нясе
й акунае ў купель, трымаючы шчопцю за пятку.

Весяліцца Рэбэка, памнажаецца, як Рахіль,
ён жа ручкай лямпадкі торгае, што бразготкі,
і вось ён ужо ходзіць пешкі пад эпітрахіль,
і вось ён ужо Сымбаль Веры выводзіць дрыготка,

і вось ён ужо завіхаецца ля алтара,
і кашулька ў яго срэбная, і грыўка прамая,
і радуйся, Богородзіцэ, і Божэ цара…
Але сапраўднае пачынаецца, калі яго паламае,

перакосіць, як бэльку крыжа. Вось тады, быць можа,
зь яго вырасьце паўнавартасны раб Божы.

## Ананімныя малітвы да Бога

Лятуць у этэр (і іх многа)
ананімныя малітвы да Бога.
Гучаць яны так:

«Ойча наш, каторы на небе...
Хай будзе воля...
Хай прыйдзе царства...
Хай сьвяціцца імя...

Мля,
ну што ты за мямля?

Ува ўсіх багі як багі,
а нам чорт паслаў лібэрала!
Ты б выбыў ужо на праймэрыз, дарагі,
калі б паства Цябе выбірала!

Думаеш, мы зьбіраемся бясконца трываць
гэтыя Твае выбрыкі ў пэнтхаўсе?
Гэтыя Твае нябёсы —
зімы, леты і вёсны
і асабліва восені?
Колькі можна заліваць нас?

А... эці бясполыя,
якіх ты завеш анёламі?
Трубяць ува ўсе трубы пасьля адзінаццатай вечара!
Канешне, прыгрэўся там у сваіх харомах:
у адно акно ўсходы, у другое заходы,
а ў нас тут бардак,
дажджы...
Так што, калі Ты ня поўны мудак,
Божа, дапамажы:

Пакарай, калі ласка, нашага суседа справа:
ён з БэНээФ і ў хаце ў яго — управа.
Ніякага паратунку!
Дай на яго ўшчунку!

Пакарай, калі ласка, нашага зьлева суседа:
ён вучыць санскрыт і жонку заве Рыгведа!
Поўны фэйспалм!
Ойча, дзе Твой напалм?

Пакарай, калі ласка, нашага суседа зьнізу:
кажнюсенькі дзень цягае па сходах валізу.
Нашто і куды?
Не давядзі да бяды!

Пакарай таксама ўсеньку нашую клетку:
паскудзяць ля сьмецьцеправода ўзімку і ўлетку,
удзень і ўначы…
Госпадзе, не маўчы!

Пазбаў нас ад гэтай парашы
і адпусьці нам грахі,
як і мы адпускаем вінаватым нашым.
Хто просіць?

А ты хіба не Ўсёведны, Божа?
Ну то гугл дапаможа».

…Енчаць нябесныя херувімы,
кленчаць балесныя ананімы:
«Пакарай, пакарай, пакарай —
інакш мы прыкрыем твой рай.

Пакарай, пакарай, пакарай —
інакш мы прыкрыем твой рай.
Пакарай, пакарай, пакарай —
інакш мы прыкрыем твой рай...»

## Via Appia

*(хлопцы чыста сабраліся пасядзець адзначыць Пэсах)*

— Дык, значыцца, ісьціну, ісьціну вам кажу, —
гэтак ён гаварыў, наліваючы ім анжу, —
тры гады праляцелі, як ралі ў пустэльні, братцы.
Я сабраў вас усіх на гэтай запраўцы, каб
бахнуць вінішча за наш пасьпяховы стартап
і яшчэ каб абвесьціць: нам пара пашырацца.

Нашая справа патрэбная й тычыцца ўсіх —
гэта нас і расьпіярыла ад сіх і да сіх:
таргетынг — urbi, а ў пэрспэктыве — orbi.
Нечапаны рынак, куды вам трэба прыйсьці
ад майго імя, але не ў маёй асобе.

Рызыкі? Пустабрэхі й пусты брэх.
Але быць самімі сабою — гэта ня грэх.
Грэх — выпіваць анжу на радзіме к'янці.
Вось за гэтую здраду нармальнаму купажу
хоць мяне ўкрыжуйце, ці горай — паўсюль забаньце.

Знаю: нягоднікі сядуць, як сонца ў заліў.
Знаю і тое, што з вас адзін мяне зьліў
і камісары мне зладзяць мыцьцё і катаньне.
Гэтыя там сырэны — ня дзень зямлі,
гэта імчыць на мой арышт нейкі катані.

Ладна, счакайце тры дні й пачынайце хайп.
Мушу ісьці, у мяне яшчэ важны скайп.
(Вось яно як — пад Рымам, на аўтагрылі...)
Што ты ўчапіўся, Пётра? Давай, адпускай.
Дзякуй, сябры. Мы слаўна пагаварылі:)

## Вэрлібр пра вэрлібр

узяць і
паднасраць
беларускай сыстэме
вершаскладаньня

паднасраць сыстэме

вы знаеце правіла
нехта мусіць насраць
раз у пад’езьдзе так чыста
раз заварылі сьмецьцеправод
замалявалі графіці
выселілі алькаголіка
з восемдзесят першай

вэрлібр
вытыркаецца
няскладнай каркаснай канструкцыяй
над панэльнымі шэрагамі
сыляба-тонікі
назаляе
як пандус
здаровым суседзям
адзіны напамін

пра тое што ў доме
жывуць
інваліды

## Ars hermetica

Залі гермэтыкам
швы гэтага вершу
нібы шчыліну
паміж ваннай і сьценкай.

Бо як няхораша
вада пераліецца праз край
проста на галовы
суседзям зьнізу.

Навошта ім гэта?
Яны толькі зрабілі рамонт
паклалі ружовую кахлю
паставілі ўнітаз маркі «Лада»
падвесілі новую столь
схавалі пад ёй праводку.

Бо гэта няпраўда
нібы паэзія
рымскі фантан
які паволі-ўрачыста
выцякае на пракаветны мармур
з пашчы Юпітэра.
Паэзія гэта каб
нідзе нікога
нічога ніякага

і толькі ў белай судзіне
ў белай пене
мірна плешчацца
вясёлая
жоўтая
вутачка.

## Пінта, Нінья і Санта Марыя

літаратурныя калюмбы
адкрываюць амэрыку
думаюць што гэта індыя
высядаюць на бераг
абдымаюць сэквоі
пужаюць скунсаў
распальваюць з тубыльцамі
першую люльку міру
задаволеныя і натхнёныя
вядуць дадому
караблі поўныя спэцыяў
рапартуюць пра экспэдыцыю
каралеве гішпаніі

цяпер наша чарга
час швартаваць мэйфлаўэр
выкупляць манхэтан
(бярыце болей бухла і шкляных бусаў)
страляць бізонаў
паліць прэрыі
у бостане пятая
каму гарбаты
і вось ужо эпігоны

цэляць у сьпіну
таму застаецца
ісьці на захад
шукаць эльдарада
кахаць пакахонтас
каб у самым канцы
заслупаваць дзялянку
на кляндайку паэзіі

літаратурныя піянэры заўжды гатовыя

## Зубы Сяргея Верацілы

Сяргей Вераціла мае трынаццаць зубоў.
Ён аддае зуб за зубам за тое, што Бог — любоў.
Вераціла купляе батон, віно і сядае ў сквэры.
Зубы Верацілы гатовыя да таемнай вячэры.

— Ісьціну вам кажу,
адзін з вас мне сёньня здрадзіць, —
кажа Сяргей Вераціла,
мацаючы языком нетрывалы шыхт, —
гэта як піць даць.
Дарэчы:
вось кроў мая,
вось мая кроў...

Сяргей Вераціла мае дванаццаць зубоў.

## Космас Станіслава Лема

Лем у канцы жыцьця меў тонкую шыю й пукатыя вочы:
«Гуманоід», — казалі міжсобку пра яго маладыя.
Але мне больш цікавы момант, калі ён крочыў
па бэтонным моле ўзімку, дзе-небудзь у Гдыні.

Бо калі праходзіць паром, разганяючы кавак,
пакідаючы на паверхні плямы саляры,
то каля берагу рыхлы, колеру кавы
з малаком яшчэ доўга дробна вібруе Салярыс.

Гэтае жыжы з бруду і лёду бяз краю
не забеліць нават балтыйская сьнежная замець.
Мне больш цікавы хлопчык, які ўцякае
з нудных урокаў у парк на Высокі Замак.

Лічыць аблокі і птушак, абдымае камлі...
Космас яго паходзіць адсюль, зь Зямлі.

*Вэнтспілс, 2011*

## Space Oddity

*DB*

— Цэнтар кіраваньня палётамі — маёру Сяргею.
Цэнтар кіраваньня палётамі — маёру Сяргею.
Шчыра вітаем на борце міжнароднай касьмічнай станцыі!
На зямлі пасьля вашага старту ўжо тыдзень танцы.
Ваш вышываны скафандар сфоткалі ўсе папарацы,

блог з арбіты — выдатны спосаб пракастынацыі,
але, калі ласка, нарэшце працуйце працу:
вы ў апагеі.

— Маёр Сяргей — цэнтру кіраваньня палётамі.
Ну і манеры — цікавацьза сваімі пілётамі!
Я не прыгонны: ня трэба ўключаць тут босаў!
Перачытайце кантракт, якім завабілі мяне ў нябёсы!
У мяне форс-мажор — бяздонныя, бяссонныя ночы!
Так што слухайце маё чароўнае стоп-слова: ня хочу!
Тут я — рыцар бяз страху, папроку і гравітацыі.
Тут мне кожная зорка ўсьміхаецца, як Паца-Ваца,
хочацца алькаголю і цалавацца…

— Маёру Сяргею…
— Зямля, выключайце ля-ля…
Я з вас фігею.
Мэтэарытныя зьлівы…
Гэткія зьлівы…
Ці бачылі вы калі
мэтэарытныя зьлівы?
Злыя вы.

— Маёру Сяргею…
Маёру Сяргею, вы чуеце нас? Прыём…
А ў адказ — лядзяная ціша  ў чорны праём.

## Патрульныя Лос-Анджэлесу перамаўляюцца па рацыі

— Грэбаныя фэдэралы перайшлі нам дарогу, Мэт.
Толькі што паўзь мяне праляцелі па Цэнтрале камэтай.
Між усіх нашых дробных немудрагелістых мэт
слава была найболей наіўнай мэтай.
Відаць, ужо вяжуць барыг і пакуюць мэт,
і — так, чувак, я хачу гаварыць пра гэта.

Таму што гэты выпадак не апошні й ня першы:
яны проста падпісваюць нашы найлепшыя вершы!
Покуль мы затуляем плячыма дзіцячыя сны,
на сустрэчы ў школкі ходзяць таксама яны!
Тырчыш, тут, як гербавы шчыт, а блішчыць наверша.

Ведаеш, для мяне бачыць чорны строй,
ўсё адно, што чуць: «Я сплю з тваёю сястрой».
Зь мяне хопіць, чувак. Завязваю. Ў сэнсе, на сёньня.
Мэт, адбой. Сустрэнемся ў тры ў бістро.

— Том, прыём. Рапарт ясны. Да болю знаёмы боль.
Фэдэралы — казлы, і гэтага ў іх не адкусіш.
Разумею: табе сьвярбіць невымерна больш,
чым калі ў цябе засадзілі пяро ў Санта-Крусе.
Але ты баец, за гэта цябе й люблю.
Толькі Томе, жыві па джазе, а не па блюзе.
Бачыш, неба сёньня палітае сырам блю?
Прыйдзе цёплая ноч — мурынка ў празрыстай блюзе.
І мы ўляжамся ёй на жывот, як на мулкі плыт —
красавіцкі зорны патруль у нябеснай цішы.
Так і плыцьмем: ноч, красавік, цішыня, цяплынь.
Што да вершаў — дыктуй. Дыспэтчарка ўсё запіша.

## Юзэф Камуняка размаўляе з саксафонам

*All the old gospels and curses*
*are inside this cornucopia*
*of giving, & all one has to do*
*is turn you toward the sunset*
*ordportlight, up to the sky,*
*when he's down*
**Yusef Komunyakaa, Ode to the Saxophone**

Сьмейся, пацешны ў сваім аплёмбе сьвісток,
імправізуй, пакуль не ўступілі трубы.
Зноў я насупраць — той самы адвечны браток,
які раіць, як ставіць гук, з таго канца клюбу.
Сьмейся, ня слухай кпінаў маіх і вярэд:
мой канец клюбу сквапны на блаславеньні,
тут заўсёды пытаньні да тых, хто зьбіраў біг-бэнд,
як у венцаў да венскай дзяржаўнай опэры ў Вене.

Плач, занудная дудка, зрывайся, лайся, крычы,
ный на вуха трамбону, гучна сварыся з гітарай:
можна ўзяць Ханой і рускіх перамагчы,
але як змагацца з амэрыканскай марай?
Чорных не пускалі ў кнігарні — я слухаў джаз.
Каб ня твой язычок, я б дагэтуль быў безьязыкім.
Твой гаспадар нешта важнае пра кожнага з нас
удзьмувае ў твой параплаўлены з цынкам нікель.

Бо джаз тут — першая мова,
першы язык, паказаны Эўропе са сьвінячага рыла
Амэрыкі. Джаз быў яе першым словам,
калі Амэрыка загаварыла.
Так што плач і сьмейся, іранічны гістэрычны ражок,
то дуэль, то дуэт Чарнабога і Белабога.

Твой гаспадар — сымпатычны антычны бажок,
што трымае рог, у якім усяго многа.

У тым рогу дастатку гудуць старадаўнія гімны,
там булькочуць заклёны, вышаптаныя нядаўна...
Твой гаспадар — сатыр у расьцягнутым сьвітэры —
ускідвае цябе вышэй, пад юпітэры
у глыбокім даўне.

*Пітсбург — Менск, 2010—2017*

## Honori causa

*Іне і Ўладзімеру Глазавым*

Дзе я ночыла сёньня, згадаць мне даволі проста:
Памятаю шпалеры на сьценах і томік Робэрта Фроста.
Згадкі коцяцца спора, як дзеці каўбаскай з гары:
Вось карэньчыкі Пруста, Сэліна, Янэска, Камю, Гары.
З кніжак вочы вандруюць на стойку антычную зь відэа:
Вайда, Азон, Бунюэль. І зноў — два тамы Авідыя.
А калі не круціцца й зіркаць з падушкі прама —
«Малавядомы Даўлатаў» і масажор Мандэльштама.
А пасьля, як прынята ў найлепшых дамах Брэста —
Кава ў джэзьве на мэрыдыяннай сетцы «Гефэста».

*Берасьце, 2021*

## Keiserens nye Klæder

Ўсе фасоны ў сьвеце зводзяцца да чатырох.
Каралеву робіць кабат, караля — сьвіта.
Прымяраючы, помні, што маеш падобны шляфрок,
Проста часам няпроста сьцяміць, які менавіта.

Толькі голым кароль незалежны ад швачак і швоў,
Валасы каралеву аздобяць ярчэй за манжэты,
Паўтараецца ўсё ў гэтым сьвеце — чытво і шытво,
І чатыры сукенкі быццам чатыры сюжэты.

## Dar po viena

*Твой арганізм атручаны паэзіяй*
**Уладзімір Арлоў**

О, найціхамірнейшы
найшчасьлівейшы час
у жыцьці майго народа —

час ад сьвітанку
да адкрыцьця кнігарняў!

Час, калі можна спакойна
займацца каханьнем
ды іншымі хатнімі справамі

Але ўжо а дзявятай
адчыняць «Цэнтральную»

А дзясятай
разнасьцежыць дзьверы «Акадэмкніга»
аб адзінаццатай — «Кніжны салён»
апоўдні — «Логвінаў»
І панеслася —
трэба чытаць
трэба адпавядаць
імітаваць аргазм
ад міжваеннай паэзіі

А цябе, здаецца
не забірае
нічога

Хіба кава
хіба цыгарэта
на аварыйным бальконе
у цаглянай сталінцы
колеру жвіру
на вуліцы Кузьмы Чорнага

Ты ўжо ня маеш ілюзій
што цябе разумее нехта
апроч пары сяброў
таму расслабілася
і атрымліваеш асалоду

Dar po viena —
назва гарэлкі,
якую выпускалі ў Коўне
за савецкім часам

Радыёперадача
«Чым ёсьць паэзія ў нашы дні»

ішла другую гадзіну
але гукар пераблытаў гузікі
таму нас чулі
толькі два п’яныя швэды
на Длугім Таргу

Карабель філёзфаў
так нікуды і ня сплыў
прадаецца, увязьнены
ў пляшку з надпісам
Grüße aus Danzig

Мадэратар этэру
таксама любіў Венічку
Ішлі з ім да мора
а трапілі на вакзал ва Вжэшчы

Шаснаццаць — казаў ён
шаснаццаць грэбаных перакладаў
«Масквы — Петушкоў» на польскую —
і ніводнага добрага

Ты цікавісься,
як усе шаснаццаць пераклалі
«И немедленно выпил».
Ён рэфлекторна падсоўвае да сябе
пляшку чырвонага.

Dar po viena —
адзінае, што мой тата
ведае па-літоўску

Вэрфі культуры
трумы культуры

Салідарнасьць
з прысмакам дызайнэрскай іржы на вуснах

Паэтка зь Вільні пафарбавала валасы
ў колер тэўтонскай цэглы
каб зьліцца зь ляндшафтам
каб балтыйскія каўкі
не насерылі ёй на голаў

Dar po viena —
зьвяртаесься ты да яе
пры кожнай зручнай нагодзе
ёй напэўна прыемна пачуць
родную мову

Dar po viena —
так можна сказаць
чалавеку ад якога маеш дзіця
так можна папрасіць
яшчэ каву
яшчэ цыгарэту

Так можна запоўніць паўзу
паміж гейтам і гейтам
паміж фэстам і фэстам
паміж Алівай і Вжэшчам

ціхамірнае існаваньне
ад цытаты і да цытаты

сілы каб займацца жыцьцём
ды іншымі хатнімі справамі

Ніколі не глядзіце на пілётаў
Проста сядайце ў самалёт
і адразу замаўляйце бухло

І ўсё ж яно праўда
нават калі гэтага й не было

*Красавік — травень 2017*

## Перад залпам

*Не совершай ошибки.*
**Иосиф Бродский**

*Знайдіть десять праведників в цих містах.*
**Сергій Жадан**

Я зьдзейсьніла гэтую хібу, я выйшла з дому.
На плошчы Гаморы ў самым цэнтры Садому
дзеці скаталі няроўную белую глыбу,
робяць сьнегавіка, як сіві рудому.

А вось і яны. Маюць белыя палітоны,
на гладкіх грудзях — з квадратным пісьмом жэтоны.
Суседзі сьпярша іх абмацюкалі ад страху,
а пасьля атачылі. Здаецца, вядуць трахаць.

Яны гаварылі, ім трэба ўсяго дзесяць.
калі б было лета і я мела хоць бы месяц,
я б усіх абзваніла, выкалупала з норак.
А цяпер мне халодна й лянівa. Мне скора сорак.

Здаецца, мне варта таксама вярнуцца ў норку.
Госпад над намі раскачагарвае зорку.
Я нарадзілася тут, я зьдзейсьніла хібу.
Я хачу прысьніць перад залпам вялікую рыбу.

## Філаматы й філарэты рыхтуюцца да высылкі

*АЖ*

Наша тут кола. Тут ня колецца дрот,
тут словы братэрства й кожны свабодны, раскуты,
але я ўсплываю, бо скончыўся кісларод,
на паверхню краіны, практычнай, як чорны абутак.

Добра, калі паэт — небальны, крыдлаты,
добра, калі душа — у жоўтую кофту...
Нешта трэба рабіць — і я раблю яшчэ латэ
у базыльянскіх мурах вядомага лофту.

Я зусім забыла, з цукрам ці безь яго ты —
выбар, які нам адзіны застаўся ў жыцьці.
Думаю, нам трэба іх зразумець, Жагота,
і сысьці.

Мне таксама цікава, ці будуць помніць пра нас
нешта большае за афішы ды іх тэкстуры;
нібы сцэну Майдану, мы пакідаем Парнас
па жывым калідоры з мэнэджэраў культуры.

Але не кажы, што ў нас нічога няма:
ёсьць гітара і хата ў вёсцы Голы Барок.
Не барока, але, Жагота, — і гэта шмат:
гэта рок.

## Апошні верш 2018 году

статус цяжкая ношка багемы ў сярэдняй клясе
гэта тое што ты на стужку кладзеш на касе
тое якую ікею купляеш для хутара
з каго ці чаго б ні пашылі тваё футра
галоўнае ў ім выходзіць як цой у ассе

пофіг як трапіш да сацыяльнага ліфту
зь якога падвалу порна або белліту
струком майсюком бяз розьніцы чым я.алі
важна праз дваццаць гадоў замуціць mee too

гугл і ютуб спадабаліся б філаматам
атам бы якасных промняў даслаў філарэтам
хто дбае колькі радкоў у тваім санэце
калі там пра крым і ён добра чытаецца рэпам

*«Найлепшы твор жанчыны —*
*дзіця, але і тут*
*здараюцца графаманкі», —*
*думала мадам Ком-Алягер,*
*падмываючы сыну*
*цэлюлітную срачку.*

***Жамчужыны мысьлі мадам Ком-Алягер***

## Нямецкая дыягностыка

*Эўропа*
*мусіць дыхаць*
*абодвума сваімі лёгкімі —*
*заходнім і ўсходнім.*

**Караль Вайтыла**

І сырэны суцішаць вой,
і Раство прыходзіцьме вечна,
покуль Рыдыгер моліцца за правы Твой,
а Ратцынгер за левы яечнік.

* * *

Мой сын —
амбасадар усіх дзяцей на зямлі:
пакінутых,
падкінутых,
выкінутых на бераг,
падарваных на мінах,
таго аўганскага хлопчыка,
які зрабіў майку Мэсі
з цэляфанавага пакету
і асабліва таго, карэйскага,
з фільму дзьве тысячы восьмага году.

Тата хлопчыка,
уцёкшы на Поўдзень
заплаціў брокеру,
каб той вывез сына з Поўначы.
Перабягаючы празь мяжу

Кітая з Манголіяй,
малы страціў праваднікоў,
загінуў у стэпе,
ня трапіў да людзей,
ня здолеў
выбегчы.

Мая любоў да цябе —
гарачая і неабсяжная,
як мангольскі стэп.
І я вельмі хачу,
каб ты выбег.

## Супольнае перабываньне

Калі выпісалі суседку па родах
з маленькай Юлечкай,
на іх месца нікога не паступіла.
Другі ложак застаўся пустым.
І тады мне падумалася,
што да нас падсялілі Багародзіцу,
каб мы не засталіся адны,
каб паказвала, як гушкаць і спавіваць,
каб падтрымлівала парадамі.
Ня ведаю, праўда, якую: Жыровіцкую, Іверскую
або Міласьцівую з гары Кікас:
санітарачка гаворыць, яны ўсе «нашыя».
А ў пятніцу
аддзяленьне засталося амаль пустым:
усім, каму было можна,
афармілі выпіску.
Кажуць, іншую радзільню паставілі на рамонт,

парадзіх адтуль будуць прымаць у гэтай.
А я думаю, так кажуць для адводу вачэй
і гэта ўсё — Багародзіцы.
Адасобленыя ад сьвету,
не пакідаюць палатаў,
схіліліся над плястыкавымі люлькамі.
Чанстахоўскай баляць швы;
Траеручніцы зручна сцэджвацца;
Угрэшская ня можа ўтаймаваць немаўля,
бегае на пост па дакорм;
Неапальная Купіна пранесла ў больніцу кіпяцільнік;
Уладзімірская не спускае дзіця з рук, выганяе газікі;
у Корсунскай адышлі воды па дарозе ў Полацак.
Спатольніца Смуткаў засяроджана разглядае
белую пялюшку з казённай пячаткай:
ведае, што плашчаніца
будзе з той сама тканіны.

* * *

Бог
інфантыльны мужык
што пакінуў дзіця на Зямлі
мужчына-падлетак
які так і ня вырас з сынам
Знайшоў яго ўжо дарослага
Ну, пытаецца, як жывеш
як маці
Цесьля гэта канешне добра
але якія твае пэрспэктывы
І потым, гены
іх не замажаш пальцам

Язэп
з новым гэблікам у руках
(гэта меўся быць падарунак)
далікатна стаіць у баку
усё разумее
апека яшчэ тады
даступна ўсё патлумачыла

## Элеуса

Лука — більд-рэдактар Новага Запавету —
сказаў Марыі: вазьмі любое дзіця.
Я хачу адкрыць твой твар усяму сьвету,
але мне бракуе на твары тваім пачуцця.

І суседкі несьлі Марыі сына ці ўнучку,
ёй жа згадваўся воцат і рымскае вастрыё,
і Марыя чужое трымала за пухлую ручку
так, што кожная маці бачыць у ім сваё.

## Лета на лецішчы

*(вершы для Сымона)*

* * *

Як гаварыў шчанюк у мульціку аб патрулі,
мы дастаткова вырасьлі, каб ня спаць уначы.
Наш летні сон скралі ластаўкі ды сьвіргулі,
і нават Чып і Дэйл ня здолеюць дапамагчы.
Сонца на сонцавароце — распалены белы пятак,

нібы мішэнь, у якую патрапілі на біятлёне.
Б’ём свой леташні рэкорд па чарэшні (няясна,
за што мы яго так).
Кожнае сьвітаньне з табою — палепшанае сутоньне.

* * *

Дваццатага ліпеня
Сымон аддзяліў дзень ад ночы
Сказаў «ноч» — і стала ноч
Сказаў «спаць» —і пачаў спаць
Палюбіў насіць шапку, бо змог яе вымавіць

Як мяса на косьць
множны лік нарастае
на мову дзіцяці

* * *

Я перадам у спадчыну соль-ваду
і сырую бульбу, калі пакусалі восы,
мочкі вушэй і вострую бараду,
і чырвонае горла, калі па халодным босы.

Скаліёз улева і бубачку ад пісьма,
бо асадку сьціскаю моцна паводле звычаю;
а болей нічога такога ў мяне няма:
астатняе гэта я ў цябе запазычваю.

* * *

Ліквідацыя наступстваў
страшнага сну
адбывалася паводле інструкцыі
былі высушаныя сьлёзкі
прагнаны Казёл
які хацеў зьесьці дзядулю
налітае і выпітае
цёплае малако
заснулі абняўшыся
трымаючыся за ручкі
благаючы каб кашмары былі адзінымі
надзвычайнымі сытуацыямі

* * *

Бітва за ўраджай стаецца бітваю з ураджаем.
Яблычнік — смак дзяцінства, калі б не карыца.
Восы ня джаляцца — не дазваляе Джа ім.
Цеста заўсёды надзіцца не паўтарыцца.

Разьбіты гадзінінік у сьмецьці — мінулы час.
Вечар у жніўні сымпатызуе льдзінам.
Новыя лямпачкі ня чулі пра Ільліча.
Кожны пірог спрабуе застацца адзіным.

Нашае лета можна выкарыстаць супраць нас,
заблякаваць нам пажарнае выйсьце з нірваны.
Разьбіты гадзіньнік яшчэ адлічвае час.
Мамін рэцэпт нідзе не занатаваны.

## Гісторыя на шпалерах

Мама зрабіла пакой «для юнага капітана»,
ды не заўважае, што карабель — пірацкі,
што ветразь парваны, палуба расхістаная
і балянсуюць на рэі аднаногія цацкі.

Тата майструе мэблю «для маленькай прынцэсы»,
ды не здагадваецца, што прынцэса — разбойніца,
што ёй бы ня лялечны, а паляўнічы дамок,
пад ногі — скуру забітага ёй Віні-Пуха,
што ў шафе ціхутка плача палонны рыцар,
а гэтая мілая нянечка заўтра звольніцца.

І пакуль мама з татам глядзяць тэлевізар у залі,
дзеці спускаюцца зь вежаў, высаджваюцца на бераг,
зрываюць сьліняўчыкі, якія ім навязалі,
малююць сваю гісторыю на шпалерах.

*«Калі нешта ня так,*
*першым скідваюць гендарны балясt», —*
*думала мадам Ком-Алягер,*
*лунаючы ў свабодным палёце.*

***Жамчужыны мысьлі мадам Ком-Алягер***

## Johnson Baby Girl

Не адводзь, не адводзь ад мяне
лёс мой дзявочы:
мама, мама, купі шампунь,
што шчыпае вочы.

Без рамонкаў, бязь іх, мама,
бяз Божай расы.
Купі, буду ліць яго прама
на валасы.

Будуць хай як асьцё,
буду хай паўсьляпая —
мама, гэта жыцьцё, жыцьцё
вочы шчыпае.

## Women's Club

Першае правіла жаночага клюбу —
ўсім расказваць пра жаночы клюб.
Не чыніць пералюбу або чыніць пералюб
у залежнасьці ад таго, ці магчымы шлюб.

У чарговым спадзеве, што гэты — нарэшце той,
пад завязку закідвацца фоліевай кіслатой.
Выйсьці ў аптэку, купіць яшчэ кіслаты.
Прачынаесься ў Алма-Аты.

Гартаваць кулакі, бо самы важны двубой —
гэта выхад адна на адну з самою сабой.
З чужаземкай, якая па-твойму ні «а», ні «бэ».
Прачынаесься ў Душанбэ.

І, няхай гавораць: вайна — справа маладух —
незаўважна пакінуць бугурт, перавесьці дух.
Саступіць сьвісток таму, хто яго пераняў.
Прачынаесься ў Кіеве.
Прачынаесься ў Кішыняў.

* * *

Ісус
набывае сандалі
з натуральных матэрыялаў
у мясцовых вырабнікоў
адмаўляецца
ўяжджаць у горад на восьліку
каб не цярпела жывёла
яму кажуць
прароцтва
рабілася вельмі даўно
нельга чакаць
ад тадышніх людзей
нашага ўзроўню сьвядомасьці
а цяпер
галоўнае
апраўдаць чаканьні
што да пальмаў
яны толькі лепш растуць
калі зь іх абрываюць галіны
затое
бальшыня тых,
хто вітацьме Цябе, Настаўнік
гарантавана жанчыны

## Dépêche

Падвярнула абцас на бугрыстай сьцяжыне вайны.
Усьведамляю цяжкасьць сваёй віны:
ад’ютантцы моцных нельга даваць слабіны —
ўся на фронт, усё дзеля абароны.
Калі брат на брата — адразу клічуць сястру:
каб у Арлі будыст прычакаў на варожы труп,
у Ліёне трэба спусьціць яго ў хвалі Роны.

Паламала пазногаць, цягнучы цела ў раку.
Пакрышыла гель-лак, спыняючы на скаку
нейкую хеўру. Покуль давалаку,
то зраблюся пад хною цалкам ужо сівая...

Спадарства Вышэй-за-Гэта і Я-не-Такі,
займіце свае пазыцыі ля вусьця ракі.

Тут буяе ляванда і порхаюць матылькі...
А цяпер увага: вось ён і праплывае.

## Першы дзень мэнструацыі маёй сяброўкі

прыпаў на афіцыйнае сьвята
Дарма мы выбраліся тады на шпацыр
Усё было для яе недарэчна тым вечарам
У шашлыку быў кетчуп,
у марозіве — клубнічны сыроп
Дзяржаўная сымболіка
даводзіла яе да шалу

Ёй трэба было на кімсьці спагнаць
і яна абрала бармэна
рэстарацыі на Карла Маркса

— Каву з цынамонам
Ня чулі пра «цынамон»?
А ці чулі вы
пра «таемнага беларускага госьця»?
Каву з цынамонам
і кнігу скаргаў, калі ласка
Зрэшты, не
Дзе тут у вас прыбіральня?

Прыбіральню хтосьці надоўга заняў
але сяброўка была настойлівай
і тарганула дзьверы

Афіцыянтка
ужо злазіла з каленак бязьвіза
Які дзесяць хвілін таму
пасьміхнуўся нам на ўваходзе

— Ну чаму?
Чаму адным усё, а іншым — х.й?
У сэнсе, наадварот
Але ты мяне зразумела
Адна ты мяне разумееш

Рэшту вечара
яна прарыдала ў мяне на плячы
запіваючы спазмалгон
«крываваю мэры»

А ў мяне была авуляцыя
таму я глядзела на рэчы
абсалютна іначай

## Запавет бацькі

— Сыне адзіны мой, паўтарай за мной:
столькі разоў ты на гэтым сьвеце мужчына,
колькі заплача жанчын над тваёй труной.
Але, не пабіліся каб яны над труною,
лепей мець іх ня разам — адну за адной.

І ты, дачушка, праўду пачуй адну:
больш тым на сьвеце важыш ты, як жанчына,
менш чым мужчын будзе несьці тваю труну.
Каб здавацца лёгкай, падбай пра труну з сасны.
І хай салодкімі будуць хіба сны.

...Як валасы на лабку, выбіваюцца яны ў людзі,
як нулявую чашку станіку грудзі,
пакрысе запаўняюць сваімі формамі сьвет.
Яе жаніх занясе на Курган Славы,
яму пасьміхнуцца ўсе курвы ад Кордавы да Варшавы,
а пакуль ім абмяжоўваюць інтэрнэт
і зусім не даюць кавы.

## My Body, My Choice

Усё пачалося — і ты ўвайшоў,
Напоўніў мой сьвет дзявочы.
На тым паэтычным начным шоў
Я ўся ператварылася ў вочы.

А ты мне ўсьмешку сваю падарыў
І запрасіў на сушы,
І так цікава пра ўсё гаварыў,
Што я ператварылася ў вушы.

Правёў да пад’езду — і раптам сьціх.
Быў твар твой такі спакусны,
Што тут жа на нейкі бясконцы міг
Я ператварылася ў вусны.

Ты ў мяне дома. Навокал імгла.
Ты прашаптаў: «Тыгрыца!»
Ну як я ва ўмовах такіх магла
Ў похву не ператварыцца?

Потым цябе я спазнала лепш —
І ты зьляцеў з п’едэстала.
Тут бы казцы й канец, але ж
Ужо жыватом я стала.

Гэтак злучылі абставіны нас
І благаславілі людзі.
Хутка на досыць працяглы час
Я ператварылася ў грудзі.

Так і жывём: мы ўдваіх ды сын.
Ты часта бываеш строгі…

Помні: як волю рукам дасі, —
Ператваруся ў ногі.

І зажыву тады, дарагі,
Як жыць заўсёды хацела:
Ператваруся нарэшце ў мазгі,
Бо гэта — маё цела.

## Splendid Sunset

*Я таксама напішу верш на свабоду,*
*хоць мне і не замаўлялі.*
**Андрэй Адамовіч**

Усе пішуць вершы пра Готлянд.
І я напішу, хоць мне і не замаўлялі.
Ці мае права пісаць пра Готлянд
жонка пісьменьніка, якая прыехала туды з мужам?
У Доме творчасьці быў толькі адзін пакой
з двухспальным ложкам —
кутні, на вуліцу,
і п’яныя швэдзкія падлеткі, падскокваючы,
грукалі ў шыбы.
Таму мы ўвесь час сядзелі на кухні.

У доме было нешта мандэльштамаўскае,
хоць прозьвішча дырэктаркі было Пастарнак —
пахла воцатам, фарбай.
Але сьвежага віна ў падвале мы не знайшлі,
таму даводзілася хадзіць у горад,
у алькагольную краму, якая зачынялася на выходныя.

Важна было закупіцца віном у пятніцу да трэцяй гадзіны,
важна было выпіць яго на пірсе.

У Беларусі нічога не адбывалася —
хіба што Андрэй Адамовіч пісаў «Верш на свабоду».
У Эўропе адбываўся чэмпіянат Эўропы па футболе —
Швэцыя грала з Украінай на другім паверсе, у бібліятэцы.

«Thank you for a splendid sunset!» —
пісалі пісьменьнікі ў кнізе водгукаў Дома творчасьці —
пад яго юрысдыкцыяй мелася лавачка на пагорку,
выстаўленая роўна па лініі пасадкі сонца ў Балтыку.
Пяць дошчачак, якія так шмат прынесьлі літаратуры.
«Агулам я прабег па Готляндзе
больш за трыста кілямэтраў», —
напісаў Валер Стралко:
самае катарсыяльнае з прачытанага ў гэтай кнізе.

У гадзіны, свабодныя ад сансэту,
мы гулялі ўздоўж мора і ратавалі камяні —
вось гэтыя, круглыя,
мы вынесьлі з пляжу Піпі Лангструмп,
а гэтыя ў форме ружаў
эвакуявалі з выспы Фаро,
з пляжу Інгмара Бэргмана.
Прыбіральшчыцы дома творчасьці
глядзелі на справу іначай:
Раз на месяц яны выносілі з дому скрыню камянёў
і вярталі на пляж, ратуючы ад пісьменьнікаў.
Бачачы гэткія справы, давялося дакупіць
пазыцыю багажу ў авіяперавозчыка.
Удалося вывезьці толькі самыя маленькія,
вялікія забраць не ўдалося.

Равы вакол гарадзкога мура Вісбю
парасьлі лопухам, кменам і лубінам,
але гэта не крычала пра заняпад,
а сьведчыла пра раскошную экалёгію.
Увогуле, усё такое гожае, такое ахайнае было на той высьпе,
што вельмі карцела там нешта парушыць,
хоць бы закон.

На Готлянд забаронена правозіць мэталашукальнікі —
захад супраць чорных капачоў,
прагных да срэбра вікінгаў.
Ведала б — правезла,
хоць мне і не замаўлялі.

## God Is Good

*Як вядома,*
*«падшубу» Бог паслаў савецкім жанчынам*
*як пакараньне за век атэізму.*
*Гэта ж спачатку засалі селядзец,*
*выберы косьці,*
*накрой на дробненькія кавалачкі,*
*а яшчэ бурак адвары і натры на тарцы...*

*Але цяпер у Берасьці прадукуюць фаршмак*
*з водарам дыму.*
*А на прадпрыемстве ў Смаленску*
*вараць бурак,*
*стэрылізуюць*
*і наразаюць саломкай.*

*Ну і паехалі:*
*берасьцейскі фаршмак*
*цыбуля*
*яблык*
*маянэз*
*бульба*
*соль-перац*
*маянэз*
*смаленскі бурак*
*маянэз*
*соль-перац*
*apple is optional*
*God is good*

*Зрэшты, адна мая братавая*
*і цяпер сама соліць селядзец,*
*і нічо,*
*карона пакуль не зваліласа.*
***Правераныя рэцэпты мадам Ком-Алягер***

## Некаторыя нюансы здабываньня пярсьцёнка Нібэлюнгаў

Калі ты герой, ты проста зазнаеш паразу:
ну там, разгермэтызацыя, Рым захапілі барбары…
Супэргерой загінаецца не адразу,
а толькі пасьля надакучлівай санта-барбары,

у выніку мэга-змовы, зваліўшыся з верхатуры,
адбіўшы амаль усё, што ў яго ляцела…
І ў давяршэньне драмы нейкая супэр-дура
забівае сябе над яго яшчэ цёплым целам.

Таму не шукай крыптаніту ды іншай такой фурнітуры —
бярыся за тое, што табе па плячы:
у проста героя, каханага простай дуры
заўсёды ёсьць шанец проста перамагчы.

## Gucci Home

Унітаз — гэта твар гаспадыні,
нават калі дбае пра яго гаспадар.
Што ж, туалетны ёршык,
тры, тры мне твар.

А яшчэ, уваходзячы да жанчыны ў дом,
трэба зважаць, ці абкіданая з краёў ануча.
І гэта, дарэчы, ніша для Gucci Home.
Ня дзякуй, Gucci.

*Аляксандар I прыўкрасна ўсьведамляў,*
*што адзін з вагомых чыньнікаў*
*рэвалюцыйных настрояў у грамадзтве —*
*«вольналюбівыя» вершы Пушкіна.*
*Але атрымаў па-царску якасную*
*гуманітарную адукацыю*
*і ня мог не зразумець,*
*што гэта добрыя вершы.*
*І таму саслаў Пушкіна ў Адэсу,*
*а не ў Сібір.*
*А Пушкін, у сваю чаргу,*
*быў дастаткова разумны,*
*каб зразумець,*
*што цар усё разумее.*
*І таму нічога не баяўся*
*і штовечар хадзіў на Неўскі*
*піць піва зь сябрамі,*
*сукін сын.*

***Масква ў галаве мадам Ком-Алягер***

## Менчукі

трымаюць дзьверы мэтро
беражліва
як хрустальны *сасуд*
спыняюцца на выхадзе
чакаюць ідучага сьледам
каб дакладна нікога ня стукнуць

Перадаюць з рук у рукі
мужчыны жанчынам
маладыя старым
дарослыя дзецям
Я адшукала Грааль
ён у менскім мэтрапалітэне

## Архіпэляг Менск

*Часто, проезжая Лосиный Остров*
*мимо небритых подмышек ольхи,*
*люди испытывают желание острое*
*выйти из электрички и лечь в лопухи.*

*Здесь устраивают свои тайные стычки*
*каратисты и поклонники алкогольных сект,*
*разный народ привозят джипы и электрички,*
*но, без сомнения, царь этого места — секс.*

**Андрей Радионов**

Радыёнаў напісаў верш пра Ласіны востраў.
Такі кранальны, што захацелася яго перакласьці.
Але ж у працэсе выявілася, што гэта няпроста,
што лепш свой напісаць: у арыгінальнасьці шчасьце.

Паколькі я пішу гэты верш на беларускай мове,
сьпярша неабходна спыніцца на лексычным аспэкце.
Востраў, абток ці выспа — любым з гэтых словаў
можна назваць аб’ект на Машэрава Пераможцаў праспэкце.

Ня ведаю, хто так трапна назваў яго Выспай Сьлёзаў:
як ні зірну — заўсёды хочацца плакаць.
Думаю, гэта нейкі брутальны філёзаф
культурай зрабіў тое, што гораду было кляакай.

ВэДэВэ на Ільлю на гэтае самае месца
прыносіць сьвяточны настрой, дзьве ружачкі і бухло.
Бо тут помнік аўганцам. Яшчэ тут анёлак ёсьць, і нявесты
езьдзяць мацаць чэлес яму, каб у мужа ўсё добра было.

Непасрэдна за Выспай Сьлёзаў пачынаецца былая Пярэспа.
Яна так называлася, бо гэта была водмель Сьвіслачы.
Цяпер тут гатэль «Беларусь», Маладзёжны тэатар і
(увага, бухло!) «Прэстан»,
усё гэта на касьцях, бо тут могілкі спляжылі сволачы.

Мая ўлюбёная выспа — пад мурам заводу Кірава:
высіцца — а навокал рэчка спакойна гніе.
У гэтым раёне, вядома ж, ёсьць аматары кіра,
але выспа такая нязручная, што ніхто там ня п’е.

На яе можна скокнуць з берагу, але гэта цяжка п’янаму.
Яшчэ тры невялічкія выспы ёсьць на Камсе,
але праз адсутнасьць мастоў і сэзоннасьць катамаранаў
на гэтых выспах таксама бухалі далёка ня ўсе.

Усе гэтыя выспы ў цэнтры даўно прыеліся.
Нічога, затое ў Лошыцы хутка насыплюць выспу,
і я туды працаваць пасялюся анёлкам з чэлесам,
калі заслужу; калі чэлес і крылы вырастуць.

## Hipster Easter

Дайце мне пароль ад вайфаю —
і я перакулю Зямлю
скару неба
засвою космас
зацырую чорныя дзіркі
абвергну трэці закон Ньютана —
толькі дайце мне пароль ад вайфаю

Я буду харошай
завяршу пачатае
здам хвасты
вярну пазыкі
адвалю дэдлайны —
толькі скажыце, як залагініцца

Я ствару ноч і дзень
сьвяцілы і зоры
ваду і сушу
нараку зьвяроў і гадаў марскіх —
калі знайду даступную сетку

Я ўратую сусьвет
адбудую Эдэм
скончу Армагедон
адмяню Другое Прышэсьце —
але мне патрэбны вайфай
і два капучына на вынас

## Вялікдзень барадачоў

Зьехаў апошні аўтобус на Рагачоў,
у Менску пачаўся Вялікдзень барадачоў.
Ох ужо гэтыя барадачы!
Сьвеньцяць абястлушчаныя кулічы,
паклаўшы на вышымайкі
фарбаваныя белым яйкі
ля драўлянага экахраму.
Бо Ісус — барадач таксама.

## Ноч Музэяў 2017 году

*2kalilaska*

Ноч засыпае вугаль
у дымныя домны.
Вечар у Brugge
перастае быць томным.

Ранак тушыць кальяны
і гасіць пену.
Караль кахае Яна,
Сымон — Алену.

Можна бамбіць,
троліць, маніць і спаміць,
Абы не зрабіць
ніводнага фота на памяць.

## Танка на Танкавай

Хасыд у мэтро
трымаецца аберуч
за томік Торы.
Так — пакідае вагон
на Юбілейнай плошчы.

## Урбанікі

* * *

Ведаеце, я пабачыла сёньня ўва сьне
вялізныя, амаль збудаваныя сані Ноя.
Нараніцу выпадзе сьнег
і ўкрые сабою нашыя ўсе параноі.

* * *

А толькі і трэба было, што паехаць у Львіў
глядзець камяніцам у іх сэцэсыйнае шкло,
і калі ты пра гэта маю смску злавіў,
гэта ня значыць, што побач цябе не было.

* * *

Я блукала па пустках нямецкай Krejsau
(польскай Krzyżowej),
а цяпер у мяне новая шыза:
Cadillac ружовы.

* * *

Я таксычная,
а ты таксыкаман:
дзевяностых
і двухтысячных раман.

* * *

Я харошая, а ты шчыры,
мы за мір у Нясьвіжы й Міры,
мы за газ і сьвятло ва ўсім сьвеце,
мы — ня эці.

* * *

На банкеце 9-й клінікі
з нагоды перасадкі пячонкі
танчаць апэрацыйныя сёстры.
Вочы іх — фінікі,
грудзі — вонкі,
іх абцас востры.

* * *

На паркоўку да «Шчасьця» на «Ўсходзе», —
сказала таксісту Рая,
нібы замуж за шэйха выходзіць,
нібы памірае.

* * *

Чалавек выносіць на Гая
сьмецьце ў пакеце ад Gucci:
ці можа быць жызьнь другая,
луччы?

* * *

Крыніца, блізкая да майго дому,
не расказвае пра мой дом нікому,
толькі й ведае, што бруіцца…
Ненадзейная такая крыніца.

* * *

Калі з Варшавы,
ў Менск уязджаецца брава:
зьлева храпе Вова,
справа сапе Клава.

Калі са Львова,
ў Менск уязджаецца клёва:
на лобе вава, героям слава
і всэ чюдово.

Калі з Рыму,
ў Менск ўязджаецца
як пілігрыму:
па вербах, на восьліку,
пад пантаміму
ідучых міма.

Калі з Тэль-Авіва,
ў Менск уязджаецца крыва,
асабліва калі зьліва
й няма піва.

Калі з Рыгі,
ў Менск уязджаецца мігам:
хутчэй пазьліваць фотак гігі
й здаць латы барыгам.

Калі з Гуляй-Поля,
ўяжджаецца ў Менск паволі,
бо і не выяжджалі б,
была б наша воля.

## Апошні цягнік БЧ

Калі нехта ня так пра цябе сказаў
і пальцам яшчэ паказалі,
куды б ты ні цёк, як па твары сьляза, —
апынаесься на вакзале.

Уночы адтуль выпраўляецца ў рэйс
апошні цягнік БЧ,
і той, хто да ночы валізу зьбярэ,
ад сябе назаўжды ўцячэ.

Куды б ён ні ехаў, гэты цягнік
апынаецца ва Ўкраіне,
і той, хто ў апошнім мэтро ня знік,
у ім непазьбежна згіне.

Дакуль бы квіткі твае ні былі,
якім бы ні йшоў пераходам,
ты маеш прыпасьці да гэтай зямлі,
якая бруіцца мёдам.

Адтуль, дзе і ўзімку, і ўлетку хакей —
ва ўнутранную Балаклаву.
Ранак. Табе прыносяць «Жакей» —
тваю апошнюю каву.

У край, абаронены ад забарон,
цябе правядзе правадніца.
Што заліп? А, бачыш — нават пэрон
Мёдам бруіцца.

## Эдэльвайс

Ён закінуў і лабы, і пабы,
ён забыўся пра пільснэр і вайс,
як Маленькі Прынц рваў баабабы,
ён расьціў для яе эдльвайс.

Ён гаршчок ставіў на антрэсолі,
грэў дыханьнем у люты мароз,
батанічныя кнігі мусоліў,
эдэльвайс жа, паскуда, ня рос.

Ён бадзяўся па Менскім узвышшы,
начаваў на Дзяржынскай гары,
жыў на дахах, дзе коткі ды мышы,
эдэльвайс жа ня рос, хоць згары!

Ён угнойваў і гэтым, і гэтым,
Дзень і ноч не змыкаў жалюзі
пад намёкі: «Ня трэба букетаў.
Лепей, мілы, у Альпы звазі».

Але льга сягнуць зорак скрозь церні!
Не пасьпеў надысьці Новы Год,
ён прынёс ёй прыўкрасны бязьмерна
сьціплы горны цьвяток, ідыёт.

*Дзень ведаў.*
*Ноч адчувала.*

***Дасьціпныя калямбуры мадам Ком-Алягер***

## Петрамай

*(Верш, напісаны на майстар-клясе літаратурнага конкурсу імя Франчэска Пэтраркі)*

На праспэкт Скарынкі
Выйшлі перастаркі:
— Ты ж мая Паўлінка...
— Ты жа мой Пэтрарка...

Традыцыйны шпацыр
У дзень Першамаю —
Гераіню-маці
Снайпэр абдымае.

А пад Цоя мурам
Піва жлукцяць панкі,
Лебедзя з Амурам
Фоцяць італьянкі.

Шыльды клічуць сьнедаць
У Patio-pizza.
На грудзях у дзеда
Зорачка іскрыцца.

Соладка ў вазочках
Дзетачкі паснулі.
Ямачкі на шчочках
У сівой бабулі.

Ўселіся падшпаркі
На лавачак сьпінкі.
— Ты жа мой Пэтрарка...
— Ты ж мая Паўлінка...

Так і йдуць па сквэры;
Яна — з гвазьдзікамі…
Вось ён — сымбаль веры
Ў вечнае каханьне.

*1 траўня 2004*

## Ноч над Бяздонкай

*(Верш, напісаны ў Беларускім Калегіюме падчас курсу Пятра Васючэнкі, прысьвечанага сэрвільнай літаратуры)*

*Валянціну Акудовічу*

Добра ў роднай старонцы: лясы і азёры!
Пахне, пахне чаборам — куды ні пакроч.
Але вось паказаліся поўня і зоры —
на Бяздонку спусьцілася ціхая ноч.

Ды ня спаў тлумны табар, што ў часе вандроўкі
заблукаў і да раньня тут лягерам стаў:
хто сьпяваў, хто ў намёце нацягваў вяроўкі,
хто ля вогнішча сеў, сузіраючы стаў.

Добра бавілі вечар: гарбата, дэбаты —
аж да ночы цягнулася іх гамана.
Раптам сьціхлі ўсе. Ўзьняўся юнак і заўзята
ён прамову пачаў: «Словы — гэта мана.

Гэта звада й вада — у любыя часіны,
але конаўку мушу ў гэты ўліць вадаём.
Мушу слова сказаць пра таго, каму вінны
гіпэртэкст «Беларусь» існаваньнем, быцьцём…

Наш настаўнік, сэнсэй, рэбэ, гуру і т’ютар
нас сабраў у калеж, ешыбот, мэдрэсэ,
расказаў, як прымусіць да думкі камп’ютар,
хто такі Бадрыяр, што такое эсэ,

навучыў ужываць простых словаў, якія
пачынаюцца з пост-, а ў канцы маюць -ізм…
Ў самым сэрцы сваім захаваў на вякі я
позірк з-пад акуляраў задумлівых прызм.

І цяпер, што б ні вёрз я з трыбунаў Эўропы
і якімі б ня сьмецьціў ідэямі друк,
памятацьму заўжды запаветныя тропы
і фігуры ягоных мысьленчых навук.

Далікатна адсутны ў Сьвіслачы й Менску,
спляжыць ён Бабілён і разбурыць Парыж,
падсьвядомасьць сваю прычасаўшы па-венску,
прагрыміць ён. Імя яго будзе паміж

іншых слаўных імёнаў. І кожнай паненцы
і хлапцу ад Камарына да самаго
Астраўца будзе знана яно. Кожны энцы-
кляпэдычны даведнік пачнецца зь яго…

Хай жа форма ліецца і думка вядзецца,
не сьсякае хай веды сакральнай рака,
хай жа дбаюць пра нас яго розум і сэрца:
будзе ён — значыць будзе стаяць і БК!»

Як адна зарыдалі натхнёна паэткі,
рускамоўны празаік ня пратаў сьлязы,
а філёзаф працягваў: «Хай нашы палеткі
агарнулі мэнтальнай зімы маразы,

Хай эліты ў аблудзе прыслужваюць Будзе,
не патрэбны хай масам нябыт і дарма,
дыскурс будзе трываць, як нагадваць нам будзе
сьціплы геній яго, што нічога няма!»

Сьціплы геній ня чуў. Адышоў па патрэбе
у азёрны аер пастаяць, папаліць...
Ён стаяў і глядзеў, як у чэрвеньскім небе,
небасхіл працінаючы, зьнічка ляціць.

То ня зорка Вэнэра не ўзышла над зямлёю,
не «канкорд» прызямліўся на родных палях, —
нэта Гайдэгер сам сьветазарнай стралою
у Нішто цьвёрда крэсьліў адвечны ім шлях.

*2003*

## Беларуская Мова ў лімэрыках

*(Лімэрыкі, напісаныя для Вячаслава Рагойшы)*

Дзеяслоў у кавярні «Крыніца»
Разьмінуўся з адмоўнай часьціцай.
«Дзе ты, не? Дзе ты, ня?» —
А ў адказ — цішыня.
З кожным ён цяпер мусіць згадзіцца.

Іншамоўны назоўнік Пэрон
Закахаўся ў Эвіту Пэрон
І сказаў ёй: «О, цёзка,
Я люблю вас так дзёрзка
І любоўю сваёй апярон!»

Жыў харошы прыметнік Харошы.
Ён пазычыў антоніму грошы.
А прыметнік Благі,
Што залез у даўгі,
Грошы ўзяў і пайшоў, выпіўоша.

Жыў някепскі прыметнік Благі.
Тут паўсюль яго білі з нагі.
Здолеў ён уначы
У Расію ўцячы:
Там ён родны стаў і дарагі.

Нешчасьлівы лічэбнік Трынаццаць
Ад пратэсту ня змог устрымацца.
Зьдзейсьніў сьмелы дэмарш:
«Забабоны — на фарш!
Я — шчасьлівы, ня трэба страмацца!»

Жыў калісьці займеньнік Яно.
Пра яго зьнялі нават кіно.
А пра Я і Яна
Не здымалі кіна,
Толькі верш напісалі. Даўно.

Жыў гаротны выклічнік Аёй
Пад абцасам у жонкі сваёй.
Ён варыў ёй рагу,
Калыхаў ёй «агу»
І «ля-ля» прысьвячаў толькі ёй.

## Гісторыя Беларусі ў лімэрыках

Эўфрасіньня, князёўна сьвятая,
Вылучалася тым, што чытае.
Аз ня блытала з букі;
За любоў да навукі
Дзеўку Полацак і памятае.

Усяслаў Чарадзей, ходзяць чуткі,
Скочыў аж ад Нямігі ў Дудуткі.
Гэта як ад Жданоў
Скочыць да Шабаноў,
І, заўваж, без усякай маршруткі.

*(Мэмуары Ўладзімера):*
«Да Рагнеды, жыхаркі Заслаўя,
Свайго часу сватоў быў заслаў я.
Стока была базара...
Ну і хто яна зара?
А я — будучы слуп праваслаўя!»

Раз Ягайла і Вітаўт (кузэны)
Крыжакоў разрулілі па дзэну.
Ці хутчэй па фэншую:
«Брат, заходзіш ашую
І — магістра ў ярэмную вену!»

Раз Францішак Скарына ў паўтрансе
Выдаў Біблію на афрыкансе,
З рыфмай і калямбурамі...
Не ацэнены бурамі,
Кінуў друк і завіс у Правансе.

Радзівілаўна, Барбі зь Нясьвіжу,
Не пабачыўшы, ўмёрла, Парыжу.
Ды вярнулася, готка,
Й папрасіла дрыготка:
«Жыгімонце, ня стаў на мне крыжу!»

Соф’і Слуцкай (Алельцы Зафеі)
Шлюб навязвалі ўсе карыфэі
Вэ-Ка-Элу. Яна ж
Адказала: «Рым наш!
Кальвіністу выказваю фэ я!»

Бону Сфорцу любілі ў народзе,
Бо шмат бавіла часу ў гародзе.
Нат падзел на валокі
Меў падтэкст неглыбокі:
Каб рассаду прарошчваць было дзе.

*«Калі нешта маеш,*
*расставацца з гэтым цяжэй,*
*чым калі яно ў цябе ёсьць», —*
*думала мадам Ком-Алягер,*
*чытаючы па-беларуску.*

***Жамчужыны мысьлі мадам Ком-Алягер***

* * *

Такая мярзотная была восень,
што нават восеньскіх фотак газэты не друкавалі,
а калі друкавалі, падпісвалі:
«з архіву мінулых гадоў».
Лісьце гніло на дрэвах,
парахнела ў паветры,
яшчэ не кранулўшы зямлі.

Людзі не разумеюць,
што восень была залатою,
пакуль не надыходзіць сьвінцовая.

* * *

Прыгарадная маршрутка «Няміга – Дудуткі»
па паўднёва-паўночнай трасе нясецца воўкам.
Тут варагі балююць з грэкамі пятыя суткі,
а пасьля — хоць зямля ім пухам, хоць шлях ім шоўкам.
Аглядае турыст Нямігі крывавыя берагі,
ідашукальнік паправіўшы, як лярнэт.
Аніякіх візаў — шэсьцьдзесят шосты санэт
і страхоўку спыталі памежнікі на мяжы.
Паглядзіце направа — гэта сьцягі, сьцягі.
Паглядзіце налева — гэта крыжы, крыжы.

## How I Spent Saturday

*(чорна-белы верш-iii)*

Вялікае праньне — пра што мне яшчэ пісаць.
У машыны маёй не канчаецца чорная паласа.

На антрэсолях чакае вясёлкавая вясна,
кош закіданы чорным да самага дна.

Шалікі, швэдры, пальчаткі — іх цьмы і цьмы.
Ці адмыемся ад халоднай доўгай зімы?

Чорнае зь белым, дзьве партыі, дзьве душы.
«Як вы там? Дзе вы? Ці не ўзялі? Пішы».

«Не ўзялі, але нам заставалася паўвяршка».
Не хапае цэнзурных словаў і пральнага парашка.

Ці прарвёмся мы цераз бруі бруднай вады
туды, дзе бялізна белая сапраўды?

Ці пачнецца вясна ў камодзе і на дварэ?
«Як вы там? Што вы робіце?» — «Мы пярэм».

Вялікае праньне — пра што мне яшчэ пісаць.
У краіны маёй не канчаецца чорная паласа.

Цераз бруі бруднай вады ці прарвёмся мы?
Ці адмыемся ад халоднай чорнай зімы?

*25 сакавіка 2017*

## Doing Smth Real

кожны прыстойны амэрыканец
мусіць мець кулю
не запісаную
ў ягонай мэдкарце

кожны прыстойны
студэнт ягелёнкі
мусіць мець штраф
за расьпіцьцё
над віслай

сорамна
быць жыхаром
менску
і ня трапіць
ні разу
ў акрэсьціна

бо гэта проста
над намі
навісла

бо так
немагчыма
ўрэсьце
ну ты даеш
мартысевіч

так перакруціць
рэчаіснасьць
ну так
але як пазбыцца
this feeling of
doing
something
real

*2013*

# ЗЬМЕСТ

## 220004, Заслаўская 12



## 223040 Бараўляны



## 211607 Лісна



## 211550 Пальмінка

## 220013, Чарнышэўскага 14



## 225213 Бронная Гара



## 220005, Залатая Горка 2
## 220012, Кузьмы Чорнага 31

## 220053, Арлоўская 66



## 220???, Пфляўмбаўм ??



## 220050 Галоўпаштамт, да запатрабаваньня

## 220030, Карла Маркса 31
## 220004, Раманаўская Слабада 13



## 220030, Валадарскага 2

